ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

# ЦІ НАДЗЕЙНЫ АПТЫМІЗМ?

**Вядома, што ўрад, прымаючы нядаўна рашэнне аб павышэнні мінімальнай заработнай платы і тарыфнай стаўкі першага разраду, асноўны ўпор зрабіў на больш эфектыўную работу прамысловасці. Так і гаварылася: будуць у яе вынікі станоўчыя, зможам утрымаць курс валюты на біржы — рэальна павялічым даходы насельніцтва. Час ідзе. Наколькі апраўданы гэты разлік у сапраўднасці, ці можна аптымістычна асэнсоўваць сённяшнія рэаліі? Аб гэтым карэспандэнт БЕЛІНФАРМа гутарыць з намеснікам міністра прамысловасці Беларусі Любоўю Сіўчык.**

**— Давайце спачатку ахарактарызуем сённяшнюю дынаміку прамысловай вытворчасці вашай галіны. І пачнём, бадай, з выканання ёю заданняў прэзідэнцкай «Праграмы неадкладных мер па выхаду эканомікі Рэспублікі Беларусь з крызісу».**

– Ужо сёння можна сцвярджаць, што прадпрыемствы Мінпрама забяспечылі выканане заданняў першага этапа ўрадавай праграмы — па тармажэнню спаду вытворчасці. А дынаміка прамысловай вытворчасці ўсё ў большай меры складваецца пад уздзеяннем плацежаздольнага попыту спажыўцоў прадукцыі. Гэта добра відаць, скажам, на такім прыкладзе. З'явіўся вялікі попыт на ўнутраным і знешнім рынку на створаную ў сувязі з канверсіяй прадукцыю прадпрыемстваў радыёэлектроннай прамысловасці. І адпаведна вытворчасць яе ўзрасла ў мінулым годзе адразу амаль на сем працэнтаў. І ў той жа час значна знізіліся аб'ёмы ў аўтамабільнай прамысловасці, у трактарным і сельскагаспадарчым машынабудаванні, таму што ў апошнія гады рэзка зменшыўся попыт на гэту тэхніку. Прычыны? Высокія цэны, зніжэнне інвестыцыйнай актыўнасці спажыўцоў прадукцыі.

**— Гэта значыць, асноўная праблема — рынкі збыту?**

– Праблема збыту прадукцыі выявілася ў першую чаргу ў змяненні ўзроўню і структуры патрэбнасцей, плацежаздольнага попыту і з'яўленні новых канкурэнтаў на традыцыйных рынках Расіі і іншых краін СНД. Таму прыйшлося актыўна шукаць новыя рынкі збыту.

**— Відаць, гэта прымусіла праяўляць большую гібкасць у асваенні новых відаў прадукцыі, што ішлі б, як кажуць, нарасхват?**

– Гэта на самай справе так. За апошнія два гады прадпрыемствы Мінпрама асвоілі выпуск новых відаў прадукцыі больш за 950 найменняў. Прычым, гэта, у асноўным, тэхнічна складаныя тавары народнага спажывання, прадукцыя вытворча-тэхнічнага і сацыяльна значнага плана. Прыемна адзначыць, што знешнегандлёвы абарот нашых прадпрыемстваў за 1994 год склаў 271,3 мільёна долараў ці 17,9 працэнта ад тавараабароту знешняга гандлю ў цэлым па рэспубліцы, супраць узроўню папярэдняга года ён узрос на 12,1 працэнта. Экспарт прадукцыі павялічыўся на 42,8, імпарт зменшыўся на 41,4 працэнта.

**— І што ж менавіта дазволіла атрымаць дадатнае сальда ў знешнеэканамічнай дзейнасці?**

– Гэтага дасягнулі за кошт павелічэння аб'ёмаў экспартных паставак і арганізацыі імпартазамяшчальных вытворчасцей. Гандлёвымі партнёрамі прадпрыемстваў Мінпрама былі прадпрыемствы і арганізацыі 73 краін свету, у тым ліку 26,9 працэнта тавараабароту прыпадала на прамыслова развітыя краіны.

**— Як выглядае сёння арыентацыя вашых прадпрыемстваў на краіны–пакупнікі і краіны–пастаўшчыкі сыравіны?**

– У цэлым захоўваецца тэндэнцыя арыентаванасці на рынкі збыту краін СНД, асабліва Расіі. І пастаўка сыравінных рэсурсаў, усялякіх камплектуючых ідзе адтуль. Расія, напрыклад, спажывае 42,8 працэнта нашай прадукцыі, Украіна — 6,9. Яны ж — і галоўныя імпарцёры сыравіны і матэрыялаў. Расія — 41,3, Украіна — 13,1 працэнта. Прама скажам, асаблівых праблем з сыравінай сёння няма, можна мець усё, што патрэбна, былі б грошы.

**— Відаць, па–ранейшаму востра стаіць праблема неплацежаздольнасці?**

– Перад прамысловасцю цяпер паўсталі адразу тры праблемы: неймавернае падаражанне рэсурсаў, недахоп абаротных сродкаў, жорсткі падатковы прэс. Аналіз работы ў студзені 1995 года паказвае, што стабілізацыя эканомікі шляхам толькі жорсткай бюджэтнай і грашова-крэдытнай палітыкі немагчыма. Неабходны таксама фінансавая і бюджэтная падтрымка мерапрыемстваў, што праводзяцца па структурнай перабудове прамысловасці, аказанне дапамогі з боку дзяржавы прыярытэтным прадпрыемствам.

**— Ці ёсць у прадпрыемстваў галіны надзейныя прапрацоўкі па нарошчванню вытворчасці на бліжэйшую перспектыву, зразумела, з улікам належнага попыту на гэту прадукцыю?**

– Ёсць, і вельмі сур'ёзныя. Кожнае падраздзяленне намеціла для сябе канкрэтныя задачы. Скажам, у сельгасмашынабудаванні плануецца асвоіць серыйную вытворчасць новай тэхнікі яшчэ 25 назваў, тэхнічна складаных тавараў народнага спажывання 37 відаў. У машынабудаванні і металургіі таксама намячаюцца вялікія перамены. Нарошчваецца выпуск аўтобусаў, дызельных рухавікоў, рознага абсталявання для тэхнічнага пераўзбраення прадпрыемстваў, пашыраецца сетка прадстаўніцтваў станкабудаўнічых і інструментальных заводаў у Кітаі, на Кіпры, у Турцыі, Канадзе, Балгарыі, Чэхіі, ствараецца каля дзесятка сумесных прадпрыемстваў з фірмамі далёкага замежжа. Стабільныя напрацоўкі ёсць таксама ў радыёэлектроннай галіне, электратэхнічнай і оптыка-механічнай, у галіне вылічальнай тэхнікі і гэтак далей. Так што тут, як кажуць, жыццё на месцы не стаіць. Але, паўтараю, каб усё атрымалася, неабходна праводзіць больш актыўна акцыяніраванне і прыцягваць знешнія крыніцы фінансавання. Тады і будзе ўздым і сапраўдны прагрэс.

Інтэрв'ю правяла Таццяна СМІРНОВА, БЕЛІНФАРМ.

НОВОСТИ СТОЛИЦЫ

# МІНСКІ КІРМАШ ВЯСНА–95

**Более двухсот предприятий различных форм собственности и видов деятельности принимали участие в десятой международной ярмарке «Мінскі кірмаш. Вясна-95». На двух площадках — выставочного комплекса «Минскэкспо» и Дворца спорта — фирмы Беларуси, России, Украины, Молдовы предлагают товары народного потребления, спортивное оборудование, предметы интерьера.**

**НА СНИМКЕ: на ярмарке «Мінскі кірмаш. Вясна-95».**

Фото Александра ТОЛОЧКО, БЕЛИНФОРМ.



## Российские Вести

### СТРОЯТ МЕНЬШЕ, НО ДОРОЖЕ

В Петербурге с начала 1995 года введена в строй 281 квартира (из них в феврале — 269) общей площадью 19,1 тыс. кв. метров. Акционерными обществами построено 57% их общей площади и 43% — государственными предприятиями и организациями. По сравнению с январем-февралем 1994 года темпы ввода жилья в эксплуатацию снизились на 54%. В марте 1995 года в Петербурге строительство вели 369 строительных и ремонтно-строительных организаций.

### СЕМЕРО НА ОДНУ ВАКАНСИЮ

Сегодня в России на одну вакансию претендует в среднем 6,6 безработных, при этом 5,8 из них имеют официальный статус. Число вакансий, сведениями о которых располагает в настоящее время российская Государственная служба занятости, составляет около 316 тысяч свободных рабочих мест.

### РАССЛОЕНИЕ РОССИЙСКОГО ОБЩЕСТВА

В России продолжается рост разницы доходов населения. В первом квартале 1995 года соотношение денежных доходов 10% самых богатых и такого же числа самых бедных россиян составило около 15 раз. В это же время год тому назад разница в доходах достигала 9 раз.

### ПРИВАТИЗАЦИЯ ТЕЛЕВИДЕНИЯ ПРИОСТАНОВЛЕНА

Государственная Дума России приняла закон, приостанавливающий приватизацию государственного телевидения и радиовещания.

Приватизация, проведенная до вступления закона в силу, признается недействительной. Приостанавливается использование первого канала телевидения, а также системы спутникового телевидения «Москва-Глобальная» акционерным обществом «Общественное российское телевидение». Разделение имущества и времени вещания между государственной телекомпанией «Останкино» и АО «ОРТ» также приостановлено.

TOP DAILY NEWS — РИД.

У МІНГАРВЫКАНКАМЕ

# ВАЕННЫЯ ГАРАДКІ СТАЛІ МІРНЫМІ

**Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».**

Беларуская ваенная акруга заўсёды лічылася сярод вайскоўцаў даволі прэстыжным месцам службы. Недзе па неафіцыйнаму рэйтынгу на другім-трэцім месцы пасля «асобай чырванасцяжнай арбацкай» — што ў горадзе Маскве. Вайскоўцы ў Мінску даволі актыўна будавалі ў свой час дамы. Шмат з іх — у прэстыжных раёнах, з цэглы, палепшанай планіроўкі. Ёсць, вядома, і старыя дамы даваеннай пабудовы і нават баракі, і панельныя шматпавярховыя ў ваенных гарадках. Усяго жылля, якое належала Міністэрству абароны ў Мінску, прыкладна столькі, колькі ў двух раёнах горада — Партызанскім і Цэнтральным. Згодна з пастановай Кабінета міністраў, жыллё, усе аб'екты сацыяльна-культурнага і камунальна-бытавога прызначэння, што былі ў распараджэнні Міністэрства абароны, цяпер перадаюцца мясцовым Саветам.

На чарговым пасяджэнні Мінгарвыканкам разгледзеў пытанне аб прыёмцы на баланс і зацвердзіў парадак перадачы ўсяго жыллёвага фонду, аб'ектаў сацкультбыту і інжынерных сетак, якія належалі вайскоўцам у Мінску.

А гэта ні многа, ні мала — 281 жылы дом з 15806 кватэрамі і 40000 квадратных метраў убудаваных памяшканняў, дзіцячыя садкі і школы, магазіны, кацельні, каналізацыя, шмат іншага. (Найбольш «пашанцавала» Першамайскаму раёну: на яго тэрыторыі 114 жылых дамоў вайскоўцаў.)

Усю гэту гаспадарку цяпер павінен утрымліваць горад. 160 мільярдаў рублёў, што выдзелены Міністэрствам абароны на ўтрыманне жылля ў Мінску, ужо выкарыстаны. Па падліках спецыялістаў адпаведных упраўленняў Мінгарвыканкама, на бягучы рамонт гэтага жылля патрэбна 115 мільярдаў рублёў, на капітальны рамонт — каля 45 мільярдаў. Такая ж сума неабходна, каб адрамантаваць інжынерныя сеткі. Так, напрыклад, да 300 кіламетраў цеплавых сетак, якія знаходзяцца на балансе горада, прыбавяцца яшчэ 60 кіламетраў і 11 кацельняў, якія трэба таксама рамантаваць.

На горад цяпер кладуцца клопаты аб адсяленні жыхароў са старых дамоў, якія раней належалі вайскоўцам. Каб адсяліць сем'і, патрэбна пабудаваць жыллё. А гэта таксама грошы. І немалыя. Лік, як цяпер заведзена, ідзе на дзесяткі мільярдаў. Адкуль жа іх узяць, калі і на тыя дамы, што цяпер знаходзяцца на балансе мясцовых Саветаў, сродкаў не хапае? Зразумела, будзе выкарыстоўвацца пазабюджэтны фонд мясцовых Саветаў для ўтрымання ведамаснага жылля. Толькі на колькі яго хопіць? Але рашэнне прынята, яго давядзецца выконваць.

Былі і больш дробныя, але не менш надзённыя пытанні. Напрыклад, аб службовым жыллі, аб тых, хто сёння абслугоўвае гэтыя дамы, нават аб машынах, якія вывозяць ад іх смецце. Яны, як аказалася, зусім старыя, патрэбна іх замена. Прадстаўнікоў мясцовых улад зацікавіла, колькі памяшканняў здадзена ў арэнду вайскоўцамі. Выявілася, што ўсяго некалькі асобных магазінаў сістэмы ваенгандлю.

...На нашых вачах адыходзяць у гісторыю ДОСы і КЭЧы, ваенныя гарадкі Масюкоўшчына, Усходні, Сцяпянка; цяпер гэта мірныя мінскія мікрараёны. Зразумела, узрасце нагрузка на мясцовыя ўлады, адпаведныя гарадскія службы. Гаспадарка ж дасталася ад вайскоўцаў вялікая і складаная. Але, будзем спадзявацца, на будзённым жыцці жыхароў былых вайсковых гарадкоў перадача жылля мясцовым Саветам не адаб'ецца.

ИЗ ЖИЗНИ ДЕНЕГ

# ЛИНИЯ ЕВРОБАНКА

Малый и средний бизнес Беларуси получил еще один стимул для развития. Европейский Банк реконструкции и развития открывает кредитную линию для нашей страны с целью поддержки этой предпринимательской категории.

С белорусской стороны участвовать в этой программе будут Белбизнесбанк и Приорбанк, которые, по мнению ЕБРР, наиболее подходят для этой роли.

Вся кредитная линия «стоит» 30 миллионов долларов. Предприятия, которые будут финансироваться на эти средства, должны быть частными или находиться в процессе приватизации, численность персонала на каждом не должна превышать 500 человек. Среди первых «ласточек» СП «Светлес», которое намерено заняться переработкой тонкомерной древесины, а также общество с ограниченной ответственностью «ВБВ», в планах которого — строительство автосервисного центра на пограничном переходе «Берестовица».

В портфеле банков-участников — заказы белорусских фирм, планирующих создание производств по выпуску лаков и красок, строительство торговых центров, автозаправочных станций и др.

Всеволод КУШНАРЕНКО, РИД.

ВІНШУЕМ

# Аб узнагароджанні Ганаровай граматай Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў

**Узнагародзіць Ганаровай граматай Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў Кузьміну Алу Віктараўну — галоўнага спецыяліста вводнага аддзела эканомікі, фінансаў і ўліку ўпраўлення бытавога абслугоўвання насельніцтва Мінгарвыканкама за шматгадовую добрасумленную працу і ў сувязі з 30–годдзем працоўнай дзейнасці ў сістэме ўпраўлення бытавога абслугоўвання насельніцтва.**

Старшыня гарсавета
А.Герасіменка

**Узнагародзіць Ганаровай граматай Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў Пілiпенку Барыса Захаравіча — начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкама за добрасумленную працу ў праваахоўных органах горада Мінска і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці.**

Старшыня гарсавета
А.Герасіменка

# ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ПАДШЫЎКІ

(Праціг. Пачатак у №№ 50–56)

## 1943-і

### В ТЯЖЕЛУЮ МИНУТУ

Это было во время вражеской блокировки. Кольцо противника сомкнулось. Партизанам угрожала непосредственная опасность. В эту тяжелую минуту на помощь нам пришел местный житель тов. Т.А. Он не только указал нам более безопасный путь движения, но и сам, оставив свою семью, изнуренный, по пояс в воде пошел впереди нас. С помощью этого белорусского крестьянина мы сделали удачный маневр и вышли из опасной зоны.

Партизанка Аля К.
(«Большевистская правда», 13 октября.)

### АДНАЎЛЯЕЦЦА ГАСПАДАРКА

**Да 26–й гадавіны Кастрычніка ў Касцюковіцкім раёне адноўлена 20 пачатковых і няпоўных сярэдніх школ, пеньказавод, скурзавод і абутковая арцель. Адкрыта бальніца на 60 коек, пачалі працаваць дзве лазні, сталовая. У Мсціслаўлі пушчаны чатыры млыны, хлебапякарня, цырульня, гатовы да пуску смалакурны і спіртавы заводы. Ва ўсіх раёнах адноўлены ўстановы сувязі.**

(«Савецкая Беларусь», 11 лістапада.)

### МУЖНАСЦЬ 60-ГАДОВАГА СЕЛЯНІНА

Калі нашы падраздзяленні пачалі фарсіраваць Днепр, да камандзіра часці прыйшоў 60-гадовы селянін вёскі Падрэчацкая Лоеўскага раёна Фёдар Чучва.

– Я рыбак, у мяне ёсць лодка. Дазвольце дапамагчы вам, — сказаў Фёдар Іванавіч.

Хутка, нягледзячы на артылерыйскі і мінамётны агонь, селянін пачаў перавозіць байцоў і боепрыпасы. Ён катэгарычна адмовіўся схавацца ва ўкрыццё і прадаўжаў сваю справу і тады, калі варожы агонь рэзка ўзмацніўся. У гэты дзень Чучва дзесяткі разоў пабываў на правым беразе Дняпра і перавёз 400 байцоў і афіцэраў, а таксама вялікую колькасць боепрыпасаў.

(«Савецкая Беларусь», 16 лістапада.)

### ПАДРУЧНІКІ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ШКОЛ

**Зданы ў друк і хутка будуць накіраваны школам праграмы на беларускай мове і падручнікі па геаграфіі для 3 і 4 класаў. Рыхтуецца падручнік па прыродазнаўству. Выходзіць з друку зборнік арыфметычных задач.**

(«Савецкая Беларусь», 20 лістапада.)

### ГОМЕЛЬ ЗНОЎ НАШ

26 лістапада войскі Беларускага фронту, прадаўжаючы развіваць наступленне, авалодалі абласным цэнтрам Савецкай Беларусі, вялікім прамысловым цэнтрам, важным вузлом чыгуначных і шасэйных дарог — горадам Гомелем.

У бітве за Гомель вызначыліся войскі стралковых дывізій, многія артылерыйскія, інжынерна-сапёрныя, танкавыя і авіяцыйныя часці.

(«Савецкая Беларусь», 27 лістапада.)

### ЭПІТАФІЯ НАД МАГІЛАЙ ГЕНЕРАЛЬНАГА КАМІСАРА БЕЛАРУСІ В.КУБЭ

**Тут ляжыць вялікі чын —**
**Кубэ, Гітлераў служака.**
**Пры жыцці быў сукін сын**
**І загінуў, як сабака.**

(«Раздавім фашысцкую гадзіну», № 112, снежань.)

### ВЫРАТАВАНЫ АД УГОНУ Ў НЯВОЛЮ

Адступаючы пад націскам Чырвонай Арміі, нямецкія нягоднікі пагналі жыхароў Брагінскага раёна ў фашысцкую няволю. Але імклівае наступленне Н-скай часці сарвала злачынныя намеры ворага. Ад угону ў нямецкую няволю выратавана больш 4000 савецкіх людзей.

(«Савецкая Беларусь», 4 снежня.)

### ЖЫВЕ І ПРАЦУЕ БДУ

**Часова акупіраваўшы Мінск, немцы ператварылі карпусы Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў склады. Але жыве і працуе БДУ! Недалёка той момант, калі ён вернецца ў Мінск. А пакуль аўдыторыі яго часова размешчаны ў будынку адной з падмаскоўных школ.**

**Звыш 1000 заяваў паступіла ад беларускай моладзі ва універсітэт пасля абвяшчэння прыёму.**

(«Савецкая Беларусь», 4 снежня.)

### КЛОПАТЫ АБ СЕМ'ЯХ ФРАНТАВІКОЎ

**Крычаўскі раённы аддзел сацыяльнага забеспячэння адрамантаваў 712 кватэр для сем'яў франтавікоў і інвалідаў Айчыннай вайны. 121–й сям'і, якія пацярпелі ад нямецкай акупацыі, выданы адзенне і абутак, 61–й сям'і аказана дапамога хлебам і бульбай, 25 дзяцей–сірот залічаны ў дзіцячы дом.**

(«Савецкая Беларусь», 8 снежня.)

### Я ЗНОЎ НА РОДНЫХ ПАЛЯХ

У чэрвені 1942 года я выехаў з роднага Гомеля на фронт. За гэты час многа забіў немцаў. Ведаў: б'юся за свой горад, за сваю Беларусь.

Цяпер я зноў на родных палях. Як іх знявечылі нямецкія нягоднікі!

Вызвалены Гомель і многія іншыя гарады і вёскі Беларусі. Але большая частка нашай старонкі яшчэ пакутуе пад ярмом ворага. Мільёны савецкіх грамадзян чакаюць вызвалення. І мы іх павінны вызваліць.

Сяргей Муха.
(«Савецкая Беларусь», 11 снежня.)

### КІНАЖУРНАЛ «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ»

**Пачынаючы са студзеня 1943 года, рэгулярна, кожны месяц, выходзіць кінажурнал «Савецкая Беларусь», які мовай кінакадраў расказвае аб барацьбе беларускага народа за сваю Радзіму, за свабоднае жыццё, за шчасце і радасць сваіх дзяцей.**

(«Савецкая Беларусь», 11 снежня.)

Вядучы рубрыкі
Генадзь ЛАГУНОВІЧ,
удзельнік Вялікай
Айчыннай вайны.

ЗДРАВООХРАНЕНИЕ

# «ПРОПИСАЛИСЬ» В МИНСКЕ

Операционные отделения столичных больниц отныне вряд ли могут считаться эталоном стерильности. Им стало только что пущенное в эксплуатацию на заводе «Промсвязь» производство по нанесению на печатные платы покрытий по швейцарской технологии.

Присутствовавшие на его открытии смогли увидеть новинку лишь сквозь толстое дверное стекло — настолько строги здесь требования к чистоте даже воздуха.

Новая технология позволит изготавливать печатные платы с высокой плотностью монтажа, увеличить их надежность, а значит, и расширить экспортные возможности.

Событие, происшедшее на «Промсвязи», стало возможным благодаря сотрудничеству белорусских предприятий электроники, швейцарского концерна «CYBA-GEYGY» и российского ПО «Мосэлектрофольга». Созданная ими компания «Белламинат» предусматривает расширение совместного проекта. После его завершения в Беларуси будут созданы мощности по производству такого количества диэлектриков и защитных покрытий для печатных плат, которого хватит и для потребителей внутри страны, и для поставок на экспорт.

Виктор ПРИХОДЬКО, РИД.

ПЕРЕКРЕСТОК

# «ГРОЗА» ДОРОГ — БЕСПЕЧНОСТЬ ПЕШЕХОДА

**Скучать столичным инспекторам ГАИ не приходится. Чуть ли не каждый месяц — рейды, месячники, много других мероприятий. И между тем обстановка, складывающаяся на дорогах, большого оптимизма не внушает. И особенно в преддверии летнего сезона, школьных каникул. Сегодня с нашим корреспондентом Анатолием БЕЛОУСОМ беседует начальник отделения ГАИ УВД г.Минска майор милиции Н.В.ЛАППО.**

**— Наталья Васильевна, недавно вы рассказывали нашим читателям о всеевропейской Неделе безопасности дорожного движения. Пожалуй, уже можно подвести ее итоги?**

– Да, неделя безопасности дорожного движения по дорогам Минска закончилась. Было совершено 5 дорожно-транспортных происшествий, в них пострадали 7 человек и, к счастью, не было погибших. Ну, а сейчас сотрудники ГАИ города акцентировали свое внимание на пешеходах. В эти дни в Минске проводится целевая операция под названием «Пешеход».

**— А с чем это связано?**

– Я приведу вам несколько цифр, и вы все поймете. В течение I квартала этого года на дорогах города совершено 173 дорожно-транспортных происшествий, 140 из них составили наезды на пешеходов, причем 110 — по вине их самих, а в 50 случаях пешеходы были пьяны. Так что ясно вполне, кто «гроза» наших дорог. Собирательный портрет главного возмутителя порядка на дорогах таков: чаще всего это нетрезвый мужчина зрелого возраста, в сводки ГАИ попадающий после 19 часов в день получения зарплаты, аванса, премии, пенсии, пособия.

**— Вы могли бы привести какие–либо конкретные примеры?**

– Да, конечно. После дегустации спиртных напитков по случаю юбилея товарища слесарь автозавода Н.П.Ханкевич на проспекте Рокоссовского угодил под «Жигули». Анализ его крови показал такое количество алкоголя, которое соответствует тяжелой степени опьянения. Неудивительно, что об этом дорожном приключении он вспомнить толком ничего не может.

Ответственный работник завода имени Вавилова Н.Г.Болохов провел с друзьями вечер в кафе. Конечно, не обошлось и без спиртного. А вот завершилась эта встреча в больнице, куда привезли незадачливого пешехода, — он переходил проспект Ф.Скорины в неустановленном месте.

Попутала «злодейка-водка» и сварщика МПО «Мир» В.Г.Шимончика. Переходя улицу Голодеда не там, где надо, он также не смог мирно разойтись с транспортом и был госпитализирован с черепно-мозговой травмой.

И себе, и своим семьям они доставили массу неприятностей, забот и тревог. И, надеюсь, что, лежа на больничных койках, сделали запоздалые выводы о том, что Правила дорожного движения касаются не только трезвых.

И еще одна информация для размышления: в этом году погибло уже 15 пешеходов, и все по одной причине — оказались на дороге будучи пьяными.

**— В приведенных вами фактах фигурируют только мужчины, причем, нетрезвые.**

– Попадают и трезвые, но это случается гораздо реже. Так что в целях прежде всего собственной безопасности все без исключения пешеходы всегда должны строго выполнять свои обязанности. Цена недисциплинированности порой очень велика, а последствия нарушений — трагичны! К примеру, недавно немолодая супружеская чета переходила улицу вблизи движущегося автомобиля, вне пешеходного перехода. Финал ужасен: смерть мужа, ранения жены.

Еще одно наблюдение — люди пожилого возраста отличаются труднообъяснимой беспечностью. Казалось бы, большой жизненный опыт должен научить, как избегать неприятностей, но увы... В реальной жизни происходит наоборот. Наши старики и старушки лавируют между движущимися машинами, не обращают внимания ни на сигналы светофора, ни на дорожные знаки и разметку. По статистике ГАИ в каждом четвертом автонаезде страдают те, кому за 60.

**— А как ведут себя на дорогах дети?**

– Я бы ответила так: следуя примеру старших. А пример таков: за 3 месяца нынешнего года сотрудники ГАИ Минска зафиксировали почти 70 тысяч нарушений Правил дорожного движения пешеходами!

Начинается пора, когда, знаю по многолетнему опыту, резко возрастает число дорожно-транспортных происшествий, в которые попадают дети, — пешеходы и велосипедисты.

Понятно, установились теплые, погожие деньки. Детей, как магнитом, тянет на улицу — учебный год завершается, ребята устали и физически, и морально. В то же время на дорогах все больше становится машин. Выезжают из своих гаражей «подснежники» (так шутя называют владельцев личного транспорта, зимой его не эксплуатирующих).

И самая большая беда в том, что дети нарушают Правила дорожного движения не по незнанию, а сознательно. 3 апреля на проспекте Ф.Скорины возле станции метро «Восток» «Жигулями» были сбиты два мальчика, братья Андрей и Вадим Гарустовичи, 8 и 6 лет. С черепно-мозговыми травмами и травмами внутренних органов обоих пришлось госпитализировать. При выезде дежурного наряда на место происшествия и опросе очевидцев оказалось, что дети проигнорировали подземный пешеходный переход и выскочили на проезжую часть из-за стоящего троллейбуса.

Хочу особо обратить внимание на то, что большинство несчастных случаев на дорогах происходит именно в зонах остановок общественного транспорта. Люди пытаются пересечь дорогу из-за стоящих на остановках автобусов, троллейбусов, трамваев. На днях по этой причине попал под машину 7-летний Дима Масальский, а 7 апреля 15-летний школьник — он погиб. А всего с начала года в дорожных происшествиях на улицах Минска получили автотравмы 27 детей, из них три — смертельные.

Тревожная статистика. Печальные факты. Но ведь от нас зависит их изменение к лучшему. Задумайтесь над этим, пожалуйста!

ДАСЬЕ «ДВ»

# БЕЗАДХОДНАЯ ТЭХНАЛОГІЯ

Выдатнымі вынікамі ўвянчалася распрацоўка комплекснай безадходнай тэхналогіі перапрацоўкі драўніны, якую вялі спецыялісты Інстытута цепла- і масаабмену, Інстытута агульнай неарганічнай хіміі Акадэміі навук Беларусі сумесна з шэрагам зацікаўленых расійскіх прадпрыемстваў.

Ужо можна паказаць тавар лепшым бокам — гэта экалагічна чыстыя бія- і вогнеўстойлівыя піламатэрыялы, іаніты для ачысткі прамысловых сцёкаў ад раствораных у іх іонаў цяжкіх металаў і цвёрдых часцінак розных матэрыялаў, актываваны вугаль, дэкаратыўныя драўляныя шчыты, паркет, спецыяльныя ахоўныя пакрыцці з уласцівасцямі фарбавальніка. Прычым усе гэтыя вырабы карыстаюцца попытам, ім гарантуецца высокая якасць. І самае галоўнае, што гэтая тэхналогія, сапраўды, не дапускае ніякіх страт. Сучкі і трэскі, якія застаюцца, таксама адразу ж пойдуць у справу — як паліва. Паралельна разглядаецца пытанне аб магчымасці стварэння ў паўночна-ўсходнім і паўночным раёнах Беларусі, багатых лясамі, спецыяльных прадпрыемстваў для рэалізацыі гэтай вытворчай задумы.

Таццяна СМІРНОВА, БЕЛІНФАРМ.

# ПАДРЫХТАВАНЫ ПРАЕКТ ПАВЕТРАНАГА КОДЭКСА

Міністэрствам транспарту і камунікацый сумесна з міністэрствамі эканомікі, фінансаў падрыхтаваны праект Паветранага кодэкса рэспублікі. Ён будзе рэгуляваць прававыя, арганізацыйныя і эканамічныя асновы дзейнасці авіяцыі Беларусі ў мэтах задавальнення патрэб грамадзян, абароны і аховы інтарэсаў дзяржавы, патрэб гаспадарчых суб'ектаў, а таксама будзе накіраваны на захаванне бяспекі палётаў і паветранага руху, на падтрымку эфектыўнага функцыянавання рынку паветраных перавозак, авіяцыйных работ і іншых паслуг. Прадугледжваецца, што праект Паветранага кодэкса будзе ўтрымліваць 18 раздзелаў і 120 артыкулаў, якімі вызначаюцца агульныя палажэнні, класіфікацыя, сертыфікацыя і рэгістрацыя паветраных суднаў, аэрадромаў, аэрапортаў, паветраных трас і мясцовых авіяліній. Ёсць таксама раздзелы, прысвечаныя міжнародным палётам, паветраным перавозкам, пошукаваму і аварыйна-выратавальнаму забеспячэнню палётаў, страхаванню, сімволіцы.

Марат УРУБЛЕЎСКІ, БелаПАН.

ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА ПАЭТА

# НАС У СВЕЦЕ НЕ ЗАБУДУЦЬ?



Раней мне часта марылася, што калі-небудзь (быць таго не можа!) з'явіцца анталогія аднаго верша пра мінулую вайну, а ў ёй абавязкова будуць прадстаўлены самыя розныя аўтары. І тыя, хто са зброяй у руках ваяваў на франтах ці ў партызанскіх атрадах, і колішнія журналісты, якія на самай справе прыраўнялі пяро да штыка, і працаўнікі тылу, хто па стану здароўя не трапіў у дзеючую армію, але рабіў сваю добрую і патрэбную справу. І, вядома ж, прадстаўнікі маладзейшых пакаленняў, для каго гэтая тэма — тэма барацьбы з фашызмам — святая, вечная і надзіва адказная.

Сёння я ўжо меней цешу сябе падобнай надзеяй. Часы, як кажуць, не тыя. І фінансавыя цяжкасці ў выдавецтваў, калі — дай, Божа, — знайсці сродкі, каб больш-менш своечасова выдаць арыгінальныя творы, ды і, па праўдзе кажучы, паступова становіцца ўсё болей ахвотнікаў умацаваць у грамадстве думку, што тая, мінулая, як мы любілі казаць, — апошняя вайна была зусім і не Вялікай Айчыннай і што, маўляў, хто яшчэ ведае, як жылі б мы, калі б...

Пасля гэтага аніякага жадання спрачацца не з'яўляецца. І нічога дзіўнага тут няма: навошта бессэнсоўныя спрэчкі там, дзе можа ўсё вырашыць голас тых, хто ўсё гэтае перажыў, выпакутаваў. А сярод іх і голас Аляксея Васільевіча Пысіна. Можна працытаваць многія яго творы, дзе ёсць тая праўда вайны, на ўзнаўленне якой здатны толькі непасрэдны яе ўдзельнік. Можна, ды дастаткова аднаго верша, які варта прывесці цалкам. Акурат таго, які і бачыўся мне доўгі час ці не цэнтральным (ва ўсякім разе адным з цэнтральных) у той анталогіі, пра якую марылася і якая, хутчэй за ўсё, ужо толькі марай і застанецца.

*Палім мы маршанскую*
*махорку,*
*Бачым мы Дняпроўскую*
*граду.*
*Будзе сёння бой. На тым*
*узгорку,*
*Можа, я таксама ўпаду.*

*Будуць травы над курганам.*
*Будуць*
*Адлятаць у вырай жураўлі.*
*Нас, напэўна, у свеце*
*не забудуць,*
*Успомняць, што на свеце*
*мы жылі.*

*...Я гляджу на даўняе*
*курганне,*
*На траву, на рыжых мурашоў.*
*Ведайце: калі мяне не*
*стане —*
*Я ў сваю дывізію пайшоў.*

«Нас, напэўна, у свеце не забудуць...» Думалася так тады, калі шанец выжыць заставаўся не тое што адзін з тысячы, а адзін з дзесяткаў тысяч. Думалася падчас вялікай вайны, якую Пысін правёў на пярэднім краі, удзельнічаючы ў баях на Заходнім, Калінінскім, Ленінградскім, 1-м і 2-м Прыбалтыйскіх франтах. Напісалася ж значна пазней, у 1966 годзе, калі паступова зажывалі раны (і маральныя, і фізічныя, а сам Аляксей Васільевіч быў двойчы цяжка паранены). Але, мне здаецца, ён ужо і тады, на адлегласці гадоў, часта задумваўся: а колькі нам хопіць памяці пра мінулую вайну, як доўга мы будзем разумець, што, калі б не было той Вялікай Перамогі, не было б на зямлі і большасці з нас. Ні старых, ні малых, ні святых, ні грэшных...

Безумоўна, шасцідзесятыя гады (ды і пазнейшыя таксама) — гэта ці не штогодня ўрачыстыя мерапрыемствы, не кажучы пра так званыя круглыя юбілеі Перамогі ці вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў... Але ж Пысін бачыў (і ведаў!), што ёсць як бы дзве памяці, і яны суседнічаюць. Адна — афіцыйная, калі і сапраўды ўсё робіцца, каб ніхто не быў забыты і нішто не забыта. А другая... Тыя ж самыя колішнія франтавікі, партызаны, падпольшчыкі — старыя і нямоглыя людзі — часта дажывалі век нікому не патрэбнымі.

Таму і з'явілася гэтае «нас, напэўна, у свеце не забудуць». І як успамін пра даўняе, перажытае. І як сведчанне таго, што на той час дазваляла ставіць пад сумненне, а ці будзе гэтая памяць вечнай? Як быццам, і не вечная. І не проста ў дачыненні да мільённых ахвяр барацьбы з фашызмам, а і ў дачыненні да канкрэтнага чалавека — і ў прыватнасці да самога Аляксея Васільевіча.

Споўнілася ўсяго чатырнаццаць гадоў, як ён назаўсёды «ў сваю дывізію пайшоў». А ў сакавіку было б паэту толькі 75...

Аляксей Васільевіч Пысін заўсёды турбаваўся за лёс Бацькаўшчыны. Жывучы, можна сказаць, у правінцыі, у Магілёве, ён ніколі сябе правінцыялам не адчуваў. Бо памкненні яго — без перабольшання — былі дзяржаўнага маштабу. Бо яму рупілася не толькі за родную Магілёўшчыну (а нарадзіўся Пысін у вёсцы Высокі Борак Краснапольскага раёна), а за ўсю Беларусь.

Змагаўся, як мог, за ўсё беларускае. Турбаваўся, каб жыла родная мова сярод колішняга партыйнага кіраўніцтва абласнога і гарадскога маштабу. Я не кажу «рэспубліканскага», бо мясцовы чыноўнік, пагадзіцеся, калі захоча, то, прабачце, напаскудзіць табе куды болей, чым той, які знаходзіцца ў сталіцы.

І «паскудзілі», як толькі маглі. А ён на гэта і не звяртаў асаблівай увагі. Бо прывык, але галоўнае ўсё ж было іншым: Аляксей Васільевіч з'яўляўся сапраўдным ПАЭТАМ і недзе ў душы верыў, што благое мінецца, добрае застанецца.

Ці не з гэтай думкай пісаў ён і яшчэ адзін са сваіх выдатнейшых вершаў «Ёсць на свеце мой алень...», які даў назву яго апошняй прыжыццёвай кнізе, што выйшла ў 1978 годзе (усяго на творчым рахунку Пысіна каля 20 кніг, у тым ліку і для дзяцей, а за зборнік вершаў «Твае далоні» яму прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР).

*Ёсць на свеце мой алень,*
*Ёсць і гэткае маленне:*
*Будзь заўсёды ў аленя,*
*Цёмны мох і светлы дзены*
*Вы, разумныя браты —*
*Я і сам страляць умею, —*
*Дайце жыць майму аленю*
*Пад галінкай дабраты.*

Заключныя радкі твора напоўнены трывогай:

*Я іду, іду між дрэў*
*Па асінавай алеі.*
*Мне пабачыць бы аленя...*
*Зноў я чую блізкі стрэл.*

І паэзія А.Пысіна, вобразна кажучы, пастаянна знаходзілася «пад галінкай дабраты», і сам паэт жыў пад гэтым небам дабраты. Магчыма, у нечым яно было і празмерна ідэалізаванае, але ж калі сам жывеш надзіва сумленна і прынцыпова, заўсёды хочаш, каб падобнымі прынцыпамі кіраваліся і іншыя. І тыя, хто побач з табой, і тыя, хто далёка.

Паэзія ж заўсёды здатна зблізіць людзей і аб'яднаць іх. Асабліва, калі гэта пысінская паэзія.

«Нас, напэўна, у свеце не забудуць...»

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

ЗАМЕЖНЫЯ КАНТАКТЫ

## КЕЛЬН ПОКОРИЛСЯ МИНЧАНАМ

Из поездки в Германию вернулся хор Гостелерадио Республики Беларусь.

Это не первые гастроли коллектива на Западе, где особенно ценят православную духовную музыку именно в его исполнении. Белорусским артистам ранее выпала честь петь в Соборе Святого Петра в Риме — главном храме католического мира.

Во время нынешнего турне минчане впервые «попробовали голос» под сводами еще одного чуда европейской архитектуры — Кельнского Собора. Состоялись выступления перед немецкими зрителями и в других городах ФРГ, на самых разных сценических площадках, но везде — с неизменным успехом.

**Всеволод КУШНАРЕНКО, РИД.**

## НЕМЦЫ НАВУЧЫЛІ. МОЖА І Ў НАС АТРЫМАЕЦЦА?

З паездкі ў ФРГ вярнулася дэлегацыя Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва рэспублікі. Яна ўдзельнічала ў пасяджэнні беларуска-германскай рабочай групы па будаўніцтву і вытворчасці будаўнічых матэрыялаў. Пасяджэнне праходзіла ў рамках эканамічнага супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі.

-- У бліжэйшы час у рэспубліцы плануецца стварыць недзяржаўную кампанію па ўтрыманню жыллёвага фонду, — сказаў намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва Аляксандр Сідарэнка. — Пакуль жа гэта работа сканцэнтравана ў руках аднаго манапаліста — ЖРЭА. Жыллёвыя рамонтна-будаўнічыя аб'яднанні, не маючы канкурэнтаў, часта працуюць спусціўшы рукавы. У Германіі набыты вялікі вопыт утрымання кватэр недзяржаўнымі структурамі. Яго мы і выкарыстаем у сябе. Вопыт нямецкіх калег знойдзе прымяненне і ў рэалізацыі праграмы бязвыплатнага субсідзіравання дзяржавай грамадзян, якія маюць патрэбу ў жыллі. Нашы партнёры з Германіі прымуць удзел у адаптацыі да рыначных умоў мазырскай дзяржаўна-кааператыўнай фірмы «Трэст нумар шэсць». Гэтыя і іншыя праграмы разгледжаны і падпісаны на пасяджэнні рабочай групы ў горадзе Гале.

У ходзе паездкі беларускія будаўнікі наведалі многія аб'яднанні будаўнічай індустрыі Германіі, сустрэліся са сваімі нямецкімі калегамі.

**Аляксандр Валавой, БЕЛІНФАРМ.**



ВРЕМЯ СОБИРАТЬ КАМНИ?

# МИЛОВИДНЫЕ ФАНТАЗИИ «МИЛЫ-ПЛЮС»

Предварительные итоги

Как любят выражаться наши доморощенные летописцы: факт стал достоянием истории. Второй Республиканский конкурс молодых художников-модельеров «Мила-95» уже в прошлом. Отгремели аплодисменты, отзвучали речи, названы победители, вручены призы, прочитаны газетные отчеты. И в этот «миг между прошлым и будущим», когда свежи еще воспоминания о недавнем событии, но уже строятся планы на перспективу, есть смысл подвести некоторые предварительные итоги.

Итак, «Мила...» собирает молодых дизайнеров уже во второй раз, что дает повод говорить о нарождающейся традиции. Тут, по всем журналистским канонам, уместно одобрительное покачивание головой и похлопывание по плечу организаторов: дескать, молодцы, дерзайте! С тем, что молодцы, соглашусь. А вот хватит ли сил, средств и энтузиазма «дерзать» в нашей провальной экономической ситуации, когда любая культурная инициатива воспринимается непозволительной роскошью, — сказать трудно. Энергичные сотрудницы газеты для женщин «Мила-плюс» на этот раз сумели «соблазнить» прекрасных спонсоров — фирму «Интермарк», лейпцигское торговое общество «Меркур» и других. А кого придется уговаривать в будущем году, объясняя, как важно это для города, для республики?..

Так что назвать Республиканский конкурс молодых художников-модельеров традиционным очень хочется, но и очень боязно. А ведь и идея и уровень ее реализации стоят того, чтобы обратить на себя внимание. Минчанам, не избалованным изысканными зрелищами, просто необходимо завести себе какой-нибудь престижный конкурс. А то обидно даже: у Витебска — «Славянский базар», у Молодечно — эстрадная песня, а столица вроде и не у дел... Конкурс может пойти (если ему помогать «шагать») и на республиканском уровне. Сейчас, когда признанные в бывшем Союзе центры моды не могут позволить себе организацию подобных мероприятий, когда рушится годами отлаженная система поиска молодых талантов, вполне можно «потянуть одеяло на себя» и создать Беларуси имидж страны, не чуждой моде.

К сожалению, до нас еще туго доходит мысль, что мода — это не прихоть обеспеченных домохозяек, а отрасль экономики, способная при умелом подходе замкнуть на себе и иностранные инвестиции, и широкую торговую сеть, и новые технологии. Скажем прямо — индустрии моды у нас нет. Есть потенциал. И организаторы «Милы» его чувствуют. Если помочь им поднять эту «целину», то от этого, несомненно, выиграет не только город, но и республика в целом.

Увы, как нет у нас индустрии моды, так нет и журналистов, грамотно пишущих на «модную» тему. Это особенно ощущалось на пресс-конференции, где задавались настолько наивные и некомпетентные вопросы, что становилось иной раз неловко. С большим профессиональным интересом ожидала я газетных репортажей. Много лет занимаясь модой и читая в основном чужие репортажи о чужих демонстрациях моделей, любопытно было почитать «своих». Особых открытий, скажу честно, я не сделала: несколько добротных отчетов, пару поверхностных заметок... Но особенно умилили меня «Свободные новости плюс». Репортер, видимо, неуверенный в себе и потому оставшийся анонимным, был сражен качеством коньяка, подаваемого на фуршете. Охотно копаясь в мелких околоконкурсных скандалах и событиях, он и о конкурсантах доброе слово сказал. Что-то в том смысле, что они французов скоро догонят и перегонят. При всем моем уважении к чужому мнению, рискну предположить, что великие кутюрье пока могут спать спокойно. А вот специалисту по коньякам лучше писать репортажи не с показов мод, а из винно-водочных отделов магазинов. Может быть, в этом случае он сумеет обойтись без «ляпсусов».

Впрочем, оставим лирическое отступление и вернемся к «Миле-95». Не откажу себе в удовольствии еще раз назвать победителей. Это Владимир Станкевич из Новополоцка, Андрей Пискунов из Витебска и обладательница "Гран-при" Елена Сергеева из Речицы. При всей несхожести моделей-победительниц их выделяет прежде всего безупречное ощущение стиля. Разные — слегка эпатажные, игривые, раскованные, чувственные, агрессивные и сдержанные, они несли на себе отпечаток личности создателя. В них не было налета провинциальной вторичности, что, увы, оказалось характерным для многих, представленных к конкурсу моделей. С точки зрения идей, открытий на «Миле-95» почти не было. Впрочем, идеи вообще штука тонкая, дорогая и малопредсказуемая. Собственно, конкурсы и нужны как раз как катализатор творческой мысли. Об этом и говорила, подводя итоги, председатель жюри президент старейшей французской школы стилистов «Эсмод» мадам Дуарину. Кстати, мадам пригласила обладательницу "Гран-при" Елену Сергееву на стажировку в Париж, на год. И вот тут сказка про Золушку из Речицы пока не имеет счастливого конца. Лене оплачивается только учеба в школе «Эсмод», а вот проезд, питание, проживание, увы... «Мила-плюс», конечно, ищет какие-то варианты, чтобы все-таки отправить девушку в Париж, но помощь меценатов, конечно, не будет лишней. Так что, господа, имеющие деньги и интерес к национальной моде, вы получаете возможность сделать доброе дело. Помните, что имя человека, который помог открыть Коко Шанель ее дом мод, навеки вписано в историю. Вы тоже (чем черт не шутит!), возможно, имеете шанс попасть в историю белорусской моды. А мы, в свою очередь, надеемся рассказать, как сложится судьба победителей конкурса, и увидеть уже не отдельные их модели, а целые коллекции на шоу «Мила-96».

**Наталия АНДРЕЕВА.**

**НА СНИМКАХ:** модель победителя конкурса Андрея ПИСКУНОВА; обладательница "Гран – при" Елена СЕРГЕЕВА представляет свою модель «Злато скифов».

Фото рекламного агентства «Мила–плюс».

# КРОССВОРД

Составил В. С. НЕСТЕРОВИЧ, г. Минск

**По горизонтали:** 1. Судорожное сокращение, сжатие мышц. 4. Насос для жидкости или газа. 9. Отходы мукомольного производства. 12. Водитель самолета. 13. В Беларуси старинная рыболовная снасть. 14. Ответ на зов, обращение. 16. Плоскодонное судно, служащее опорой временного моста. 17. Летчик-космонавт СССР, уроженец Беларуси. 20. Спортивная командная игра. 21. Горная система в Азии. 23. Город в Витебской области. 24. Низкий буфет для посуды и столового белья. 28. Весенний праздник дохристианского происхождения у славянских народов. 32. Первенство, преобладающее значение, главенство. 33. Большое соединение кораблей, самолетов, танков, действующих согласованно. 34. Точка небесной сферы, к которой движется Солнце относительно звезд. 35. Горизонтальный выступ, завершающий стену здания или идущий над окнами и дверью. 36. Исходная точка, грань чего-либо, имеющего протяжение. 37. Персонаж романа В.Лациса «К новому берегу». 38. Руководитель сборщиков налогов и поборов в Великом княжестве Литовском.

**По вертикали:** 2. Афинский стратег (главнокомандующий), вождь демократической группировки. 3. Лесная певчая птица с красноватым по бокам оперением. 5. Шляпочный гриб с длинной тонкой ножкой. 6. Пресса. 7. Легкие выездные сани. 8. Живописное изображение Бога или святого (святых), являющееся предметом религиозного поклонения. 10. Генерал, отважный сын белорусского народа, Герой Советского Союза. 11. Изделие из тяжелой ворсистой или гладкой ткани. 15. Продукт, получающийся при сгущении паров в жидкость. 16. Меткое образное изречение. 18. Крупное млекопитающее тропических лесов Америки и юго-восточной Азии. 19. Животный мир. 22. Живописец и график, народный художник СССР (1963), Герой Соц. Труда (1969). 25. Головной убор, обычно с тульей. 26. Забота, попечение. 27. Высокое травянистое растение с пушистыми семенами. 28. Кустарник со сладкими ягодами. 29. Ряд одинаковых арок. 30. Предмет белорусской народной мебели. 31. Старинная конструкция крыши крестьянской избы и хозяйственных построек в Беларуси.

## ОТВЕТЫ на кроссворд, опубликованный в № 51

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:** 1. «Школа». 4. Шляпа. 11. «Фальстаф». 12. Клайпеда. 15. Наиб. 16. Барселона. 17. Истр. 20. Отрок. 21. Панда. 22. Гиень. 25. Зощенко. 26. Франк. 28. Полоз. 29. Пикассо. 33. Актив. 34. Шелли. 35. Атрей. 40. Кали. 41. Лермонтов. 42. Утес. 45. Каллиопа. 46. Тамерлан. 47. Измир. 48. «Честь».

**ПО ВЕРТИКАЛИ:** 2. Каллисто. 3. Лист. 5. «Лайф». 6. Прессинг. 7. Афины. 8. Салат. 9. Уланы. 10. «Татра». 13. «Испанка». 14. Клодт. 18. «Локомотив». 19. Миннесота. 23. Чехов. 24. Аркан. 27. Киплинг. 30. «Скалолаз». 31. Ферма. 32. Вертолет. 36. Скука. 37. Нерпа. 38. Коран. 39. Осина. 43. Чили. 44. Реле.

